# ПАГОНЯ

**Адрэс рэдакцыі і канторы:**
Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а.
Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень ад 1—2 гадз.
Кантора адчынена што дзень ад 8—3 гадз.

**ГРАМАДЗКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ.**

ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОВА РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

**Падпіска каштуе:**
на **10** № № ўпярод — **10** аал.
„ **5** „ „ — **5** „
Кошт асобнага № — **1** „

**Рукапісы**
не прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачываюцца па погляду Рэдакцыі.

Абвесткі ўселякага разьмеру прыймаюцца коштам за радок маленькага друку 2 залаты на опошняй страніцы незалежна ад зьместу.

**№ 7.** | **Коўна, Чацьверг, 9 верэсьня 1920 году.** | **Год І-шы.**

## У ЦІХУЮ НОЧ.

Ціхая ночка, чароўна,
Усё спачывае кругом,
Месяц ня спіць адзін поўны,
Сьвеціць на ніз серабром.
Зоркі дрыжаць як-бы ў страху,
Шэпчуцца штось між сабой,
Хмарка плывець дзесь без шляху...
Ціха, спакойна кругом.
Вецер на‘т дрэў не калышэ,
Рыбкі паснулі ў вадзе...
Ўсюды спакойная ціша,
Шум ні адкул не ідзе.
Раптам заплакаў хтось ў полі,
Вецер той плач падхапіў
І з ім панесься па волі,
Покі ня сьціх паміж ніў.
Месяц пачуўшы плач гэты,
С страху схаваўся між хмар,
Зоркі ўздрыгнулі, як кветкі,
Ўсіх агарнуў якісь страх.
Хто-ж гэта мог устрывожыць
Сонны прыроды спакой?
То беларус наш галосіць,
Скрыўджаны доляй ліхой.
Выгнаны з роднае хаты,
Кінуўшы родны край свой,
Мусіў па сьвеце цягацца,
Жыць у старонцы чужой.
Многа там выцярпеў мукі,
Многа праліў горкіх сьлёз,
Кожнаму быў там дакукай,
Цяжкі, ой, цяжкі меў лёс.
А як вярнуўся ў край родны
Што-ж ён знайшоў тут, бедак?
Зельлем зарошшы загоны—
Уместа-жэ хаты — лазьняк.
Дзе-жэ падзелася хата?
Ніва пустая чаму?
Жыў-жэ калісь ён багата,
Меў хоць немалу сямью.
Спалена хата чужынцам,
Што ваяваў тут з другім,
Ён-жэ быў выгнан блудзіцца,
З бедным сямействам сваім.
Вось ён што ноч цяпер плачыць,
Долю кляне ўсё сваю...
Шчасьце-ж тады хіба ўбачыць,
Як закапаюць ў зямлю.

**Вінцук Сталяронак.**

◆◆◆◆◆◆

## Браслаў.

З царкоўна-парахвіяльнай летапісі Браслаўскае Св.-Мікалаеўскае цэркввы, ведзенай ў 1880 г. пратаерэем а. Ўладзімірам Васілеўскім, відаць, што ў 1850 г. сучасны Браслаў быў невялікім мястэчкам, меўшым 2-3 дзесятка хат, ў 1880 г. ён меў ужо каля 100 хат. Але ў даўнейшыя часы, ў XVП і XVШ сталецьцях Браслаў меў ня малую значнасьць, як цэнтр палітычны і як цэнтр рэлігіёзны. Пэўна ведама, што Браслаў, пасьля злучэньня Літвы з Польшчаю, быў Сэймiковым местам і быў галоўным пунктам Браслаўскага Староства. У Браславі калісьці быў збудованы замак і гара, істнуючая і ў сучасны мамэнт пасярод мястэчка, да гэтай пары называючаяся „Замак“ ці „Замкавая“. Есьць апавяданьне, што ў гэтым замку жыла Княжна Гэлена Іоаноўна, дачка Цара Маскоўскага Іоанна Ш, жонка Караля Літоўскага. Александра Што ў ўселякім выпадку тутка жыў нейкі князь ці княгіня, відаць з таго, што у сучасны мамэнт істнуюць назвы, даводзючыя гэта на прыкладзе: у І-й вярсьце ад Браславу вёска называецца „Княжына“, гэтак жа блонь на берагу возера Дрысвяты мае назву „Княжыя пожні“.-Што Браслаўская гара насыпная, можа служыць довадам, што на Жмудзі ёсьць гутарка ў выпадках пажаданьня каму злога: „Каб ты гару Браслаўскую капаў“.

Істнуюць прэданьня, што ў самым Браславі было 7 цэркваў. Паміж імі указываюць на Замкавай гарэ мейсца церквы Св. Варвары, ў 2-х вярстох ад Браслава, з заходняга боку, быў жаноцкі кляштар, а ў 3-х вярстох, з ўсходняга боку, мужэскі кляштар уніяцкі. Гэты кляштар згарэў ад маланкі ў канчатку 30-гадоў XVП сталецьця. Браслаў, як места, ўласна згубіў значэньне пасьля 1793 г., ў часе прылучэньня Літвы да Маскоўшчыны, тады ён быў спалён 2 разы ў часе баеў маскоўскіх войск з польскімі; нейкі час ён быў паветавым местам і пры Маскоўскім Урадзе.

У парахвіі маюцца даўнейшыя гарадішчы, курганы і зямляныя валы. У парахвіі па статыстыцэ 1880 г. найбольш было каталікаў, каля 10,000, праваслаўных 1148, каля 1000 стараверaў і больш 1000 жыдоў. Цяперака усіх жыхараў толькі каля 2000. Р.-Каталікі тутака былі літоўцы, а беларусы праваслаўные. Калі стараверы пасяліліся у гэтай мейсцовасьці-няведама і цяжарна вырахаваць.

Сярод парахвіі есьць маскоўскіе пасяленцы з Курляндыі.

**М. Р.**

◆◆◆◆◆◆

Копія.

З „Весьніку Часоваго Ўраду“ № 10 (стр. 7).

## ПРЫКАЗ

аб карыстаньні прыватнымі маёнткамі.

§ 1. Прыватныя маёнткі, уласьнікі чы арэндатары якіх не вярнуліся дзеля якіх небудзь прычын самі, чы праз сваіх ўпоўнамочаных маёнткамі не ўпраўляюць,—усе гэтыя маёнткі пераходзяць у распараджэньне Міністэрства Земляробства і Дзяржаўных Маентнасьцяў.

§ 2. Міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці апеку над асобнымі маёнткамі выпаўняе праз сваіх паветавых, чы асобных упоўнамочаных, якія ўпраўляюць згодна з мяйсцовымі камітэтамі.

§ 3. Усе маёнткі, узятыя пад апеку Дзяржавы, аддаюцца дзеля абработкі ў арэнду ў такім парадку: а) найперш работніцкім камітэтам у маёнтках, б) працоўным арцелям сельска-гаспадарскіх работнікаў, в) пасьля другім сельска-гаспадарскім хаўрусам, чы грамадзянскім арганізацыям, г) грамадзянскім установам; д) мяйсцовым самаўпраўленьням (валасным чы паветавым камітэтам).

Калі—ж ні водзін з гэтых хаўрусаў маёнтку ў арэнду ня возьме, то упоўнамочаны Міністэрсва Земляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці назначае упраўляючага маёнткамі і вядзе гаспадарства ад сябе, чы з дазваленьня Міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці, здае ў арэнду паасобным асобам.

Увага: Належучыя да маёнтку сады, вазёры, чы лясы, на абшары больш аднэй дзесяціны, могуць быць выдзеляны з маёнтку і выкарастаны Ўрадам, чы на іншых варунках зданы ў арэнду асобна.

§ 4. Здаючы ў арэнду зямлю работніцкім камітэтам маёнткаў, чы хаўрусам сельска-гаспадарскіх работнікаў, трэба клапаціцца, каб пахатнай зямлі аднэй сямьі дасталася ня больш 10 дзесяцін (у Сувальскай губ. 20 маргоў) і аднаму дарасламу чалавеку (21 год) як мужчыну так і кабеце, ня больш 5 дзесяцін (10 маргоў). Астаўшаяся зямля здаецца ў арэнду ў першы чарод бліжэйшым беззямельным і малазямельным, а пасьля ўжо іншым.

§ 5. Калі адпаведна лічбе работнікаў і абшару абрабляемай зямлі-недахват скаціны, чы другіх патрэбных для сельска-гаспадарскай працы прыладаў, (жывога чы мёртвага інвентара), то для ўладаньня маёнткам павінен быць устаноўлен камітэт з работнікаў і бліжэйшых сельскіх гаспадароў, якія маюць коні і патрэбны для гэтага мертвы інвэнтар. Такому камітэту даецца пахатнай зямлі на кожнага каня, знайходзячагася ў распараджэньні камітэту, 10 дзесяцін (20 маргоў).

§ 6. Унутраньні распарадак, варункі аплаты працы, устанаўліваюць самі ўзяўшыя на ўладаньне маёнткі арганізацыі.

§ 7. Работніцкія камітэты, хаўрусы і паасобныя асобы (§§ 3,4), узяўшыя на ўладаньне маёнткі ня маюць права ні здаваць у арэнду гэтых маёнткаў другім, ні перэдаваць на карыстаньне.

§ 8. Здаючы маёнткі на ўладаньне (§ 3) павінен быць састаўлен дакладны сьпісок маентнасьці (скаціны, гаспадарскіх прыладаў, рухомага інвентара), а так сама—пратакол перэдачы і прыёму на уладаньне ў трох экзэмплярах: адзін экзэмпляр астаецца у ўласьніка маёнтку, другі у ўпоўнамочанага Міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці, трэцьці—ж прадстаўляецца упоўнамочанным Міністэрству Земляробства і Дзяржаўнай маентнасьці.

§ 9. Усе ўзяўшыя на уладаньне маёнтак, чы яго часткі па § 3, адпаведаюць за узятую маентнасьць, павінны старацца, каб ня прыйшоў да упадку агульны стан маёнтку, чы яго частках і не павінны вясьці сельскае гаспадаркі марнатраўным способам, і бяз ведама ўпоўнамочанага Міністэрства Зямляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці, ня маюць права прадаваць жывы, чы мёртвы інвэнтарь, будынкі і гэтак далей. Калі ўзяўшы на ўладаньне маёнтак гэтых варункаў ня будзе прытрымовывацца і прынятую маентнасьць будзе нішчыць і будзе пагаршаць зямлю, то ўпоўнамочаны Міністэрства Зямляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці можа, пры дапамозе дзяржаўнага чы трацейскаго суду—маёнтак, чы зямлю ад яго адабраць і перадаць на уладаньне другому а таксама ўзыскаць страты судавым парадкам.

§ 10. За карыстаньне зямлёй маёнтку вылічаецца з іх уласьнікаў (камітэтаў, хаўрусоў і г. д). плата грашмі чы сельска-гаспадарскімі прадуктамі па норме 10 пудоў жыта з аднэй пахатнай і сенакоснай дзесяціны зямлі.

Увага I: У асобных выпадках арэндная плата можа быць зьменшана з згоды Міністэрства Зямляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці.

Увага II: Арэндная плата можа быць унесена ўсякімі гаспадарскімі прадуктамі, лічучы, што 10 пудоў жыта роўна 10 пудом ячменю, 11 пудом аўса, 8 пудом, пшаніцы, 8 п. гароху, 40 п. бульбы, 2 п. жывой вагі рогатае скаціны чы аўцы, $1^1/_2$ п. жывой вагі сьвіні, 1 п. сала, 20 ф. масла, 5 коп. яёк.

Увага III: За сады, калі яны не здаюцца ў арэнду паасобна, арэндная плата за адну дзесяціну ў два раза больш.

§ 11. У выпадках, не прадугледжаных гэтым пастанаўленьнем, Міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці выдае асобныя правілы.

§ 12. Пастанаўленьне гэтае ўходзіць у законную моц з дня яго апавяшчэньня.

Падпісаў: Старшыня Міністраў М. СЬЛЕЖЭВІЧ, Міністэр Земляробтсва і Дзяржаўнай Маентнасьці І. ТУБЕЛІС.

Коўна 19 студзена 1919 году.

◆◆◆◆◆◆

## Міністры Літвы:

**Міністэр Унутраных Спраў Рафаіл Скіпіціс** -- родам з вёскі Баўкі, Шадаўскай валасьці, Шавельскага павету. Учыўся ў Палагенскай прагімназыі, Шавельскай гімназыі і на юрыдычным факультэце Маскоўскага Унівэрсытэту.

У Літоўскім грамадзянскім жыцьці участвуе з чацьвертай клясы гімназыі. Літоўскі язык ізучае з прыяцелямі патаемна ў самаадукаваўчым гуртку; распаўсюджывае газэты і кнігі ў літоўскай мове, якія атрымывае патаемна з Прусаў.

У часе руху 1905 г., шчыра далучаецца да рэвалюцыйнай працы і шырока працуе ў Шавельскім павеце. Ў 1908 г. шавельскія жандармы его заарэштовываюць і садзюць ў турму.

Звольнены з турмы, ён ізноў прадаўжае сваю працу- У 1908 г. ён быў предстаўнікам ад вучашчыхся Шавельскага павету на канфэрэнцыі літоўскіх вучашчыхся ў Вільні.

Як быў студэнтам, то яго часта выбіралі старшыней хаўрусу Маскоўскіх студэнтаў-літвіноў. Калі ў 1910 г. выйшоў журнал „Зорка“, ён прыймае ў ім жывое учасьце і таксама ў культурным жыцьці літоўцаў-каленістаў ў Маскве. Ў летку, прыезджаючы на вакацыі, працуе ў вёсцы сярод народу. Зьбірае нацыанальныя маючыя вартасьць рэчы, абучае грамаце дарослых, зьбірае бібліатэку для крэсцьян, арганізуе вечарынкі, шпацэры, дае рэцэнзыі „Зорцэ“ і „Літоўскаму Весьніку“ і пішэ стацьці ў „Літоўскім Гаспадару“.

З пачатку вайны ён працаваў упоўнаважаным Літоускага хаўрусу Цэнтральнага Камітэту спачатку ў Літве, а пасьля ў Расеі -- у Пецярбурзе і ў Маскве. Калі творыцца партыя „Сантара“ ў 1916-1917 г. ён ўступае першым ў рады гэтай партыі; праз неякі час яго выбіраюць членам Цэнтральнага Камітэту. Калі партыя пачала выпускаць газэту „Сантара“ ён становіцца членам Рэдакцыі. Ў 1917 г. выбіраецца членам Літоўскай Нацыянальнай Тарыбы ў Пецярбурзе, а пазьней, ў тым самым гаду. ў Галоўную Літоўскую Тарыбу ў Расеі, якая назначыла яго падтрымываць сувязь і зносіны з украінскай уласьцю, што ён і выканаў. У студзеню 1918 г. яму удалося завязаць бліжэйшыя зносіны з украінскай ўласьцю і заключыць дагавор па арганізацыі і канцэнтрацыі літоўскага войска ў мяжох Украіны, каб пасьля яго перавясьці на Літву, але гэта яму выканаць ня ўдалося, дзеля таго, што ў хуткім часе Кіеў занялі бальшэвікі.

Ён ездзіў па літоўскім калёніям Украіны, арганізовываў Нацыянальныя Тарыбы (ў Екацярынаслаўле, Харкаву) і угаварываў, запрашаў літоўцаў вярнуцца ў родны край.

Ў траўню 1918 г. зьвертаецца на Літву і вучыцельствуе ў Шавельскай гімназыі і абараняе правы літоўцаў ад акупантаў-немцаў і апалячаных літоуцаў. Ў пачатку 1919 г. Часовы Ўрад Літвы даручае яму заняць пасаду Дзяржаўнага Пракурора пры Коўненскім Акружным Судзе.

Калі напалі на літву бэрмонтаўцы, ён, як член хаўрусу літоўскіх стрэльцоў, атпраўляецца на фронт і арганізуе партызанскі атрад, разам з якім і прыймае учасьце ў нападках па бэрмантаўцаў.

Цяпер Скіпіціс назначан Старшыней Суду хаурусу Стрэльцоў.

◆◆◆◆◆◆

## Абшар Літвы і яе насяленьне.

Большая часьць граніц Літвы-установлена. Застаюцца толькі стасункова невялікія раёны, гдзе трэба ўстанавіць граніцы з латышамі і палякамі. Дзеля гэтага ёсць ужо магчымасьць зрабіць прыблізны падрахунак насяленьня і абшару Гаспадарства.

Бяручы асобныя часткі абшару Літвы атрымаем гэтыя цыфры:

| | | |
|---|---|---|
| I. | Быўшая Коўненская губ. . | 39.900 кв. кл. |
| II. | „ Віленская „ . | 28.330 „ „ |
| III. | „ Горадзенская„ (паводле мірнай умовы з Расёей . . | 2.630 „ „ |
| IV. | „ Сувальская губ. (без некаторых частак Сувальскага і Аўгустоўскага паветаў) . | 11.350 „ „ |
| V. | Клайпэдзкі край (раён) . | 2.800 „ „ |
| VI. | Палангенскі край (раён) да ракі Сьвятой (па умове з латышамі) . . . | 100 „ „ |
| VII. | Часьць Курляндзкай губ. (па ўмове з латышамі) . | 1.400 „ „ |
| | Усяго | 86.510 кв. кл. |

Запраўдная лічба насяленьня ў даны часневядома з тае прычыны, што ня было агульнай перапісі жыхароў; але ўсе-ж такі можна думаць што ёсьць вялікая рожніца ад апошніх ведамасьцяў, сабраных прад вайной, або ў пачатку найны. Па гэтым ведамасьцям агульная лічба жыхароў у паказаных мяйсцовасьцях дасягае 4.295.000. Гэта лічба састаўлена з ніжэй сьледуючых частак:

| | | |
|---|---|---|
| I. | Коўненскай губ. . . | 1.844.000 |
| II. | Віленскай „ . . | 1.471.000 |
| III. | Горадзенскай „ . . | 139.000 |
| IV. | Сувальскай „ . . | 615.000 |
| V. | Клайпэдскага краю . . | 165.000 |
| VI. | Палангенскага „ . . | 8.000 |
| VII. | Курляндскай губ. . . | 53.000 |
| | Усяго: | 4.295.000 чал. |

◆◆◆◆◆◆

# Ваенна-палітычны абгляд

**За тыдзень.**

У Фінляндыі, з прычыны падпісаньня перамірыя з Савецкай Расеей, выканаўчы камітэт мяйсцовых арганізацый зьвярнуўся к арганізаваным у прафэсыянальныя саюзы работнікам з прапазыцыяй, у каторай прафэсыянальныя саюза запрашаюцца ўстроіць у—іва ўсім краю сходкі, для абгавараньня палячых пытаньняў дня, зьвязаных з падпісаньнем перамірыя з Савецкай Расеей. Паседжаньні фінска-бальшавіцкай мірнай канфэрэнцыі ў Юр'еве ўсё яшчэ прадаўжаюцца. Заняткі адбываюцца галоўным чынам у тэрыторыяльнай камісыі, гдзе абгаварываюцца дагэтуль яшчэ не разьвязаныя пытаньні. Адносіны між Літвой і Польшчай за прайшоўшы час без формальнага аб'яўленьня вайны, ўступілі ў стадыю збройнага стаўкнавеньня. Польшча, пад уплывам сваіх апошніх сукцэсаў над бальшавікамі, пастанавіла ў адносінах да Літвы праводзіць сваю прошлую палітыку і заняць быўшую ўпярод дэмаркацыйную лінію Фоша. З гэтай мэтай польскае войска перайшло ў наступленьне і заняло лінію Сувалкі-Сэйны. Раптаўным ударам літоўскае войско выбіла палякоў з Сэйнаў і заняло лінію Краснополь-Сайно-Плісна-Вігры-Пятроўскія вазёры, вёск. Лубрынская-Ялёнева. Літоўскі Ўрад праз сваіх прадстаўнікоў у Лёндане і Парыжы пратэставаў процiў польскае інвазыі на Літву.

Мірныя перагаворы між Польшчай і Савецкай Расеей у Менску ўсё яшчэ прадаўжаюцца. Польская дэлегацыя ў Менску адкінула мірныя варункі бальшавікоў і ў свой чарод апублікавала дэклярацыю прынцыпіяльнага характэру ў каторай памячае асноўныя лініі сваёй мірнай палітыкі. Дэлэгацыя лічыць сваёю павіннасьцю апраўдаць нядаўнае прошлае і апавяшчае, што Польшча і наўперад ня думае ўмешывацца ў чыста расейскія ўнутраныя справы. Пад відам абязпэчаньня народам, знайходзячымся па тую старану этнаграфічнай Польшчы, права на самаазначаньне, дэлегацыя зьбіраецца станавіць аб лёсе Беларусі і Украіны. Польска-бальшавіцкая лінія фронту праходзіць цераз Плісна-Сайно-Острава-Саколка-Гарадок-Нарэў-Белавежа-Кобрын-па левым беразе зах. Буга-10 верст на захад ад Грубешава, Броды-Буск-Злочув па рэцы Старыпе ў Бучацкім раёне, па рэцы Залатой Ліпе у раёне Галіча.

Народны Камісар Загранічных Спраў - Чычэрын паслаў Румыніі ноту з паказаньнем гатоўнасьці к прыяцельскаму разьвязаньню ўсіх пытаньняў, запрашаючы прыслаць дэлегатаў у любое места, калі Харкаў Румыніі не да прыняцьця.

Нацыянальны Украінскі Ўрад знайходзіцца цяпер у Галіцыі. Часьць Ураду выбрала сваім мяйсцом памешканьня м. Тарноў, рэшта знайходзіцца ў Ржэшаве і Мельніцах. Петлюраўскі ўрадавы орган „Украіна“ пачаў выхадзіць у Станіславове. Украінская Нацыянальная армія (група Безручко) б'ецца на галіцыйскай тэрыторыі. З іменьня гэтай арміі робіцца мабілізацыя ў раёне Тарнополя, Чарткова і Станіслявова. Між украінскім і польскім камандаваньнем яднаньня ня відзіцца. Петлюра адправіў да Мітрапаліта Шэптыцкага дэпутацыю з Міністрам Левіцкім на чале, з мэтай угаварыць мітрапаліта аказаць свой уплыў на насяленьне Усходней Галіцыі ўступаць у рады арміі гэн. Омэльяновіча-Паўленкі. Мітрапаліт Шэптыцкі даў адпаведзь уклонную.

Народная армія гэн. Врангеля на Каўказкім фронце пацярпела вельмі сур'ёзнае паражэньне. Высадзіўшыяся ў Кубанскай вобласьці часьці народнай арміі гэн. Врангеля, былі акружаны чырвонай арміяй і зусём зьніштожаны. Фронт гэн. Врангеля, пасьля вышэйпаказанага разгрому, ўзноў зьведзен к разьмерам Крымскага вучастку. На Далёкім Усходзе адбываецца аб'еднаньне Ўраду Усходняга Сібіру. Камуністычная партыя Ўсходняга Сібіру прыняла рэзалюцыю аб прымкненьні к саюзу між Верхнеудзінскім і Владывастоцкім Урадамі. На падставе гэтага саюзу, Ўрад Чыты выключаецца ад перегавораў аб будучыні Ўсходняга Сібіру. У зьвязку з прадстаячым аб'еднаньнем Урадаў Усходняга Сібіру, атаман Семёнаў, апэраваўшы ў Забайкальскай вобласьці, адракаецца ад уласьці пераданай яму адм. Колчакам і просіць Урад Савецкай Расеі пазваленьня, падобна гэн. Брусілаву, уступіць у рады чырвонае арміі, з варункам забуцьця і прабачаньня ягонай контррэвалюцыйнай дзейнасьці. **Х. Ш.**

◆◆◆◆◆◆

## Абмена нот паміж Літоўскім Урадам і Расейскім.

Коўна, 31. 8. (Эльта).

27 жніўня Міністэрства Загранічных Спраў атрымала ад прадстаўніка Савецкай Расеі ў Рэўлі Гукоўскага, гэткую ноту:

„Стасоўна з загадам Р. С. Ф. С. Р. Народнага Камісара Загранічных Спраў Чычэрына, гэтым маю гонар зьвярнуць Вашу ўвагу на ламаньне Коўненскай Конвэнцыі, якое здарылася ў апошніх часох на нашым фронце.

Літоўская армія, без упераджаючага належнага з намі паразуменьня, абсадзіла лінію Ліда-Маладэчна, якая ёсьць незамянімай для рухаў нашага войска. Збурыла яна таксама чыгунковы тор пад Ляндваровам і спавадавала сустрэчу цягнікаў. 25 жніўня літоўскія афіцэры гразілі нашым працаўніком на тэй, а таксама іншых станцыях, што яны будуць узяты ў палон. Гэткім спосабам паднялі ліцьвіны зачэпную акцыю, гразячую нам пад узглядам ваенным. Народны Камісар Чычэрын просіць у Вас выясьненьня, праз што былі вызваны такія крокі з літоўскай стараны і паказаць Вам, што канечная стратэгічная патрэба безварункова дыктуе нам затрыманьне камунікацыйных ліній.

Частае ламаньне Коўненскіх конвэнцый Літоўскім войскам, як то-ж стаўляньне перашкод нашым ваенным патрэбнасьцям, можа выдаць найбольш непажаданы вынік, унікненьне якога ёсьць аднальково важна для абедзьвюх старон.

Учора выехаў у Вільню Упоўнамочаны Р. С. Ф. С. Р. Аксэльродэ, з каторым будзеце мець магчымасьць выясьніць і адсунуць усякія, паўстаўшыя з узгляду на абавязуючую Коўненскую Конвэнцыю непаразуменьні, аднак-жа пакуль ён прыедзе, калі гэта ёсьць магчымым, прашу Вас даць мне адпаведзь на гэту тэлеграму проста ў Маскву, бо то-ж ў Рэвель, скуль магла-б быць выслана ў Маскву.

27 жніўня 1920 г. № 2887. **Гукоўскі**

На гэту ноту Міністэр Загранічных Спраў д-р Пурыцкіс выслаў 29 жніўня, праз Рыгу, да Расейскага прадстаўніка ў Рэўлі—Гукоўскага, гэт'кую адповедзь:

„У адказ на Вашу ноту з 27 жніўня г.г.,прашу данесьці Народнаму Камісару Загранічных спраў пану Чычэрыну гэта:

Бяручы тое пад увагу, што палажэньне значна зьмянілася, Літоўскі Ўрад уважаў за патрэбнае пачацьце новых перагавораў з Расейскім Даводзтвам у Вільні, каб яно пастаралася прысьпешыць эвакуацыю другой, устаноўленай Коўненскай умовай, эвакуацыйнай стрэфы. Цьверджаньне, што войска літоўскае абсадзіла чыгункавую лінію Ліда-Маладэчна, ня мае ніякай падставы. Што-ж датыча выкалееньня расейскіх цягнікоў паміж Вільняй і Новай-Вялейкай, а не пад Ляндваровам, як гэта кажацца ў Вашай ноце, за гэты выпадак Літоўскі Ўрад ня можа прыняць на сябе адпаведальнасьці, бо лінія гэта ня была пад кантрольлю Літоўскага Ўраду.

Іншыя другарадныя выпадкі, якія зайшлі між людзей—яны безпасрэдна вызваны праз органы расейскія, бо процi ўсіх пунктаў умовы з дня 6 жніўня, вывазілі яны краёвую маентнасьць. Непаразуменьні гэтыя ўгавораны ўжо Літоўскім Урадам і Расейскім Даводзтвам ў Вільні. Літоўскі Ўрад выражае задаволеньне з факту прыбыцьця Прадстаўніка Расейскага Ўраду, которы будзе магчы безпасрэдна выясьніць усякія непаразуменьні.

Міністэр Загранічных Спраў **Пурыцкіс.**

◆◆◆◆◆◆

## Нота Літоўскага Ўраду з прычыны польскіх нападаў.

Польскае войска ўзноў пачало сваю выправу процiў Літвы, нападаючы на нашы пляцоўкі ў вокрузе Аўгустова і Сувалак. Прыймаючы пад увагу гэтыя факты, Міністэр Загранічных Спраў выслаў да Дзяржаў коаліцыі ноту гэткага зьместу:

„Калі палякі, вядучы контроафэнзыву, пачалі пасувацца ўпярод у паўночным кірунку, Літоўскі Ўрад, 27 жніўня, выслаў да Варшавы ноту, ў якой, мэтай унікненьня якіх-колечы патычак між польскім і літоўскім войскам, прапануе стварэньне тымчасовай дэмаркацыйнай лініі. Бадай што ў тым самым часе прыбыла з Варшавы ў Коўну польская вайсковая дэлегацыя, з прапазыцыяй разгледжаньня ваенных спраў і прадусім устанаўленьня дэмаркацыйнай лініі.

Літоўскі Ўрад думаў, што Польскі Ўрад жывіць маральныя думкі тымбольш, што палякі ня раз ужо апавяшчалі і публічна, на Конфэрэнцыі ў Рызе, 23 жніўня зазначылі, што Польшча хоча знайсьці прыяцельскае разьвязаньне спорных пытаньняў паміж Літвой і Польшчай і навет у тым выпадку, каб безпасрэдныя перагаворы не давялі-б да аканчацельных вынікаў, Польшча будзе старацца ўсякія непаразуменьні паміж ёйі Літвой разьвязаць мірнай дарогай, якой паслугуюцца цывілізаваныя народы, не хапаючыся зброі.

Палякі аднак не далі адповедзі на ноту з 27 жніўня, як не закончылі пачатых перагавораў, але скрыта сконцэнтравалі сваё войска ў ваколіцы Аўгустова і 30 жніўня, неспадзеўкі ўдарылі значнымі сіламі на слабейшыя аддзелы літоўскага войска, якія сьцераглі Аўгустоўскага каналу. Ліцьвіны, нападзёнными пераважаючымі сіламі, змушаны былі, нясучы страты забітымі і раненымі, адступіць ў кярунку Кальварыі.

Выжэй прадстаўленыя факты паказываюць досыць выразна, што Польскі Ўрад выракся прыязных і мірных стасункаў з Літвой і рвецца да таго, каб збройнай сілай заняць літоўскія землі.

Перад гэтымі фактамі Літве не астаецца нічога іншага, як бараніцца ўсякімі магчымымі срэдствамі і не дапусціць да новай польскай інвазыі. Разьліў крыві мог-бы быць устрыманы толькі тагды, калі палякі тойчас-жа адойдуць, чакаючы на тое, калі ў паразуменьні з Літоўскім Урадам ня будзе азначана тымчасовая дэмаркацыйная лінія.

Міністэр Загранічных Спраў **Пурыцкіс.**

Вышэй паданая нота даручана ўсім прадстаўніцтвам Літвы, Лізе Народаў, Ватыкану і мяйсцовым Коаліцыйным Місыям.

Выдавецтва і рэдакцыя: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спраў. Коуна, Вуліца Адама Міцкевіча, 13а.

ДРУКАРНЯ А. БАКА і Х. МАНКЕСА, КОЎНА.